*Заўтра — выбары. Найбольш цікавая сітуацыя ў сталіцы, дзе пакуль не абралі ніводнага дэпутата (перадвыбарчая тэма на стар.2)*

(перадвыбарчая тэма на стар.2)



# СВАБОДА

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 42000
Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

28 лістапада 1995 г. №54 Кошт свабодны

# Прэзідэнту «стала дрэнна». Але не надоўга

Бадай упершыню ў гэтым годзе на прэс-канфэрэнцыю Лукашэнкі, акрамя "парадачных" журналістаў, былі запрошаныя і прадстаўнікі незалежных сродкаў масавай інфармацыі – агенцтва БелаПАН, газэтаў "Фемида", "Свободные новости" і нават СВАБОДЫ.

Безумоўна, адной з важнейшых тэмаў прэс-канфэрэнцыі сталі парламанцкія выбары. "Я вельмі баюся, што ў Вярхоўны Савет прыйдуць людзі, якіх і блізка нельга туды дапускаць", – заявіў Лукашэнка і адзначыў, што найбольш яго насьцярожвае тое, што ў парламант імкнуцца патрапіць старыя дэпутаты і былыя сябры па ягонай камандзе. "Часы ўсеўладзьдзя Саветаў прайшлі", – заявіў ён, выказаўшы перакананьне ў тым, што Вярхоўны Савет ніколі ня будзе прэзідэнцкім. Лукашэнка падкрэсьліў, што практычна ня ўмешваецца ў выбарчую кампанію – "я яе не тармажу, але і не прысьпешваю". Прэзідэнт заявіў, што ня зробіць ніякага выступленьня з заклікам да грамадзянаў прыйсьці на выбары, "Хрыстом Богам" папрасіў людзей галасаваць за таго, каго яны ведаюць і зноў паскардзіўся, што дзейнасьці кандыдатаў у дэпутаты сваёй акрузе ён не бачыць (цікава, як можна, напрыклад, расклеіць плакаты ў прэзідэнцкай рэзідэнцыі. – В.Ц.). "Я, калі паглядзеў сьпіс кандыдатаў, мне стала дрэнна", – сказаў Лукашэнка. Але, напэўна, прытомнасьць хутка вярнулася да прэзідэнта, бо Лукашэнка пра свае дзеяньні ў выпадку правалу выбараў заявіў так: "Калі выбары не адбудуцца, прэзідэнт бярэ на сябе адпаведныя паўнамоцтвы і будзе кіраваць дзяржавай".

У той жа час Лукашэнка заявіў, што ён ня хоча ніякай абсалютнай улады, а толькі жадае выконваць ускладзеныя на яго абавязкі. "Але так не атрымліваецца", – паскардзіўся прэзідэнт, наракаючы, што ў нашым грамадзтве яму папросту між волі даводзіцца ўмешвацца ва ўсе, нават у дробныя справы. "Абсалютная ўлада – гэта абсалютная адказнасьць. Я гатовы да абсалютнай адказнасьці", – заявіў Лукашэнка, прызнаўшыся адно, што ў яго камандзе не хапае дастаткова адданых яму людзей. "Улада будзе ўзмацняцца па меры таго, наколькі гэта патрэбна грамадзтву", – гэтыя словы Лукашэнкі даюць падставу меркаваць, што ступень "патрэбнасьці" будзе вызначаць ён сам.

Што да Канстытуцыйнага суда, то ў адносінах да КС у бліжэйшы час "будуць прынятыя адпаведныя рашэньні". Па словах Лукашэнкі, апошняе рашэньне КС – "гэта не рашэньне, гэта сьмешна, гэта юрыдычны нонсанс", таму " праблема ў прэзідэнта ня зьнятая і я сёньня разглядаю захады, якія я павінен прыняць у сувязі з Канстытуцыйным судом".

Доўга і з відавочным задавальненьнем прэзідэнт разважаў пра пазіцыі і асобу старшыні Вярхоўнага Савету Мечыслава Грыба, маючы перад сабой газэты з рэпартажамі аб апошняй прэс-канфэрэнцыі сьпікера. Па словах Лукашэнкі, у гэтага чалавека галоўным у ягоным стаўленьні да прэзідэнта заўсёды было ягонае ўласнае "я" – забесьпячэньне аўтатранспартам, зарплата, рэзідэнцыя. Лукашэнка заявіў, што ў новым Вярхоўным Савеце многія дэпутаты хацелі б бачыць сьпікерам такога чалавека, які б мог наладзіць дыялог з прэзідэнтам.

Яшчэ адна любімая тэма кіраўніка дзяржавы – узаемаадносіны з прэсай. "Мы не наладзілі дачыненьні з прэсай належным чынам. Гэта поўны ваш правал, Уладзімер Пятровіч," – кінуў Лукашэнка ў бок Заматаліна, які сядзеў побач. Прэзідэнт, аднак, пацьвердзіў, што ягоная пазіцыя ў дачыненьні да незалежнай прэсы ня зьменіцца – "адносіны да іх будуць адэкватнымі". Заўважым адразу, што на прэс-канфэрэнцыю былі запрошаныя карэспандэнты расейскіх газэтаў "Известия" і "Комсомольская правда", але на ўваходзе ім паведамілі, што запрашэньне адмяняецца.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Украінская амбасада заявіла пратэст

**Украінская амбасада накіравала ў нашае МЗС ноту пратэсту з прычыны паказу па беларускім тэлебачаньні перадачы «Украіна сёньня»**

У гэтых сюжэтах, якія дэманстраваліся па БТ 15 і 16 лістапада, беларускія тэлежурналісты паказалі Украіну настолькі жабрацкай, што мы ў параўнаньні з імі выглядалі вельмі шчасьлівымі людзьмі. У ноце ўкраінскай амбасады адзначаецца: "Гэтая тэлеперадача наўмысна тэндэнцыйна прадстаўляе беларускаму народу жыцьцё Украіны. Такія перадачы не спрыяюць умацаваньню традыцыйна сяброўскіх украінска-беларускіх сувязяў".

Дарадца ўкраінскага пасла Ўладзімер Салавей сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ, што нэгатыўная накіраванасьць тэлефільма выклікала вялікае непаразуменьне і ў беларускіх телегледачоў, якія зьвяртаюцца ў амбасаду з пытаньнем: каму і навошта спатрэбілася такая тэндэнцыйная перадача?

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

ДОСЛОВНО

# Лукашенко считает, что у Гитлера есть чему поучиться

*Из интервью президента Лукашенко немецкой газете Handelsblatt*



**Корр.:** *В Восточно-Европейских странах сейчас ведется дискуссия по поводу того, какая модель демократии является оптимальной. Т.е. с сильной президентской властью или сильной парламентской властью. Если я правильно понимаю, вы выступаете за сильную президентскую власть. Как вы считаете, это оптимальная модель для Республики Беларусь?*

**А.Лукашенко:** Знаете, так нельзя ставить вопрос. Поверьте, история Германии – это слепок истории в какой-то степени Беларуси на определенных этапах. В свое время Германия была поднята из руин благодаря очень жесткой власти. И не все только было плохое связано в Германии и с известным Адольфом Гитлером.

Он перечеркнул все хорошее, что он сделал в Германии всей внешней политикой и развязал Вторую мировую войну, ну а все остальное уже вытекало из этого. Это гибель людей массовая, в том числе, и немецкого народа. Но вспомните его власть в Германии. Нас с вами тогда не было, но по истории мы это знаем. Ведь немецкий порядок формировался веками. При Гитлере это формирование достигло наивысшей точки. Это то, что соответствует нашему пониманию президентской республики и роли в ней президента.

Т.е. я хочу конкретизировать, чтобы вы не подумали, что я приверженец Гитлера. Нет, я подчеркиваю, что не может быть в каком-то процессе или в каком-то человеке все черное или все белое. Есть и положительное. Гитлер сформировал мощную Германию благодаря сильной президентской власти. Это были 30-е годы, время сильного кризиса в Европе, а Германия поднялась благодаря сильной власти, благодаря тому, что вся нация сумела консолидироваться и объединиться вокруг лидера.

Сегодня мы переживаем такой же период времени, когда нужна консолидация вокруг одного или группы людей, чтобы выжить, выстоять и подняться на ноги.

*(Некоторые выдержки из интервью читайте также на стр.3)*

## Беларусь лічыць законным продаж зьнішчальнікаў

**У Галоўным штабе міністэрства абароны актыўна абмяркоўваецца скандал, зьвязаны з падрыхтоўкаю да рэалізацыі адной амэрыканскай фірме двух зьнішчальнікаў СУ-27, якую праводзіла беларуская зьнешнегандлёвая фірма "Белтэхэкспарт".**

Аб нюансах гэтага кантракту было напісана ў газэце "Известия" 22 лістапада. Беларускі бок сапраўды зьбіраўся за 18 млн. даляраў прадаць амэрыканцам два самалёты, якія дыслакаваліся на аэрадроме каля Баранавічаў. Прадстаўнікі рэспубліканскага вайсковага ведамства лічаць, што ў гэтым выпадку Масква не панесла ўрону, зьвязанага з нібыта ўцечкаю сакрэтных зьвестак, бо ў Расеі на ўзбраеньні ёсьць тэхніка больш новага пакаленьня. Тым больш няма падставаў лічыць продаж незаконным, бо беларускі бок не хаваў ад "Росвооружения" сваіх намераў і планаваў пералічыць расейскім авіябудаўнікам 40% агульнага кошту самалётаў. На думку аналітыкаў са штабу ваенна-паветраных сілаў, гісторыя з продажам СУ-27, аналагічная з гісторыяй рэалізацыі ракетнага комплексу С-300, мела на мэце нанесьці ўдар па Беларусі як канкурэнту Расеі на сусьветным рынку зброі.

**СІМ**

## Дзяржаўныя клопаты

**Усе дзяржаўныя ўстановы, арганізацыі і прадпрыемствы атрымалі пісьмовае распараджэньне кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі М.Мясьніковіча "О замене старой государственной символики на печатях, бланках документов, в вывесках на зданиях".**

У распараджэньні адзначаецца, што ўжываньне "старой" дзяржаўнай сімволікі недапушчальнае, яе належыць паўсюдна замяніць на "новую".

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## БСП выбірае... Камая

**Беларуская сялянская партыя падтрымала кандыдатуру былога партфункцыянэра КПБ Аляксея Камая, які балатуецца ў дэпутаты ВС у Быхаве.**

Мясцовая арганізацыя БСП заклікае са старонак раённай газэты "Маяк Прыдняпроўя" прагаласаваць за Камая.

Адзіным супернікам яму будзе Ігар Борскі, лідар быхаўскай арганізацыі БНФ. Астатніх кандыдатаў камісія "адсеяла". Дарэчы, Борскі быў зарэгістраваны толькі з трэцяга разу пасьля разгляду справы ў Цэнтарвыбаркаме.

**М.Г.**

## Падрабязнасьці гомельскай трагедыі

**СВАБОДЗЕ сталі вядомыя вынікі расьсьледаваньня, якое праводзілася па факту самагубства на Гомельскім ліцейным заводзе "Цэнтраліт".**

Нагадаем тую трагедыю: невядомы мужчына прыйшоў у цэх, адчыніў плавільную печ і ўскочыў у вогненны мэтал. Ад чалавека, вядома, нічога не засталося. Міліцыі спатрэбілася некалькі тыдняў, каб адказаць на пытаньне: хто гэта мог быць. Сьледзтва прыйшло да высновы, што такім чынам скончыў жыцьцё 56-гадовы жыхар Гомеля Ю.Саладоўнікаў, работнік прадпрыемства "Сэйсматэхніка". Раней ён працаваў на "Цэнтраліце", таму змог вольна прайсьці на завод.

У той дзень Саладоўнікаў зьвярнуўся да свайго начальства па матар'яльную дапамогу, аднак яму адмовілі. Ня маючы сродкаў, каб утрымліваць двух дзяцей і цяжкахворую жонку, чалавек у адчаі і зрабіў гэты крок.

**Андрэй СЯМЕНЧЫК**

## Няўжо страйк вінаваты?

**Скончыў жыцьцё самагубствам (па вэрсіі міліцыі) намесьнік дырэктара Бабруйскага машынабудаўнічага завода.**

У нябожчыка выявілі два раненьні нажом ад аднаго з якіх (у сэрца) ён і памёр. Ён нядаўна працаваў на гэтай пасадзе і надта прыняў да сэрца страйк, які правялі рабочыя заводу. Патрабаваньні былі звычайныя: павелічэньне зарплаты і своечасовая яе выплата.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Зянон Пазьняк: «Смаргонскія начальнікі ў паніцы»

*У суботу, 25 лістапада, дэпутаты апазіцыі БНФ правялі на пляцы Якуба Коласа ў Менску сустрэчу з выбаршчыкамі*

Своеасаблівую палітінфармацыю па актуальных пытаньнях сёньняшняга жыцьця наладзілі для аўдыторыі (больш за тысячу чалавек) Сяргей Навумчык, Лявон Баршчэўскі, Уладзімер Заблоцкі, рэдактар "Народнай волі" Іосіф Сярэдзіч, намесьнік старшыні БНФ Юрый Хадыка ды лідар Фронту Зянон Пазьняк. Са слоў прамоўцаў стала вядома, што тэлевізійнага эфіру прадстаўнікі розных партыяў напярэдадні выбараў не атрымаюць – сумесны зварот да адміністрацыі прэзідэнта застаўся без адказу. Таму прыхільнікам парламантарызму засталося спадзявацца на сьвядомасьць выбаршчыкаў, на іхнае разуменьне таго, што новы Вярхоўны Савет абавязкова трэба абраць. "Галасуйце за каго хочаце, але толькі галасуйце", – такі зварот неаднаразова чула аўдыторыя ў той дзень на пляцы Якуба Коласа.

*І ўсё ж цікава, як ідуць перадвыбарчыя справы ў кандыдатаў ад БНФ. Пра сваю кандыдацкую эпапею распавядае ў інтэрвію СВАБОДЗЕ старшыня Народнага Фронту Зянон Пазьняк:*

– У Смаргонскай акрузе сітуацыя абвастрылася. Прэзідэнцкая каманда палохае мясцовую вэртыкаль, што калі прапусьцяць Пазьняка, то ўсіх выганяць з работы. З Менску прыяжджаў дарадца прэзідэнта Посахаў, зьбіраў нараду. Начальства ў паніцы. Кожны дзень у райвыканкаме зьбіраюць нарады дырэктароў прадпрыемстваў і прымушаюць агітаваць супраць мяне.

Работніцы дзіцячых садкоў скардзіліся, што іх адпраўляюць агітаваць супраць мяне. За гэта ім абяцаюць адгулы. Мы правялі апытаньне і па выніках відавочна, што большасьць людзей падтрымліваюць маю кандыдатуру. Таму, відаць, улады будуць рабіць стаўку на фальсіфікацыю. І гэта адчуваецца ўжо зараз.

Майму канкурэнту – намесьніку галоўнага лекара райбальніцы Савіцкаму ўлады спрыяюць ва ўсім: ладзяць сустрэчы, у райвыканкаме друкуюць яму ўлёткі. Мае даверанья асобы прысутнічалі на сустрэчы, якую ён праводзіў з выбаршчыкамі ў рабочы час. Склалі пратакол і накіравалі ў пракуратуру. Таксама органы міліцыі знайшлі ў будынку райвыканкаму лістоўку камуністаў. Яна ўтрымлівала паклёп супраць мяне. Стос гэтых улётак перадалі ў пракуратуру, павінна быць узбуджаная крымінальная справа. Карацей, улады ідуць напралом, парушаючы законы.

Але нават пры такой шалёнай прапагандзе, шанцаў яны ня маюць (калі, вядома, выбары ня будуць сфальсіфікаваныя).

*– А якое эканамічнае становішча на Смаргоншчыне?*

– Становішча вельмі цяжкае. Зарплаты вельмі нізкія. Скажам, прадавец гастраному атрымлівае 200 тысячаў у месяц, прыбіральшчыца – 110 тыс., бухгалтар у таварыстве інвалідаў – 50 тыс. рублёў.

У Смаргонскім раёне 4000 беспрацоўных. Гэта амаль 10% ад усяго насельніцтва.

*– Ці не адчулі вы разгубленасьці сярод людзей, якія можа быць спадзяваліся на прэзідэнта?*

– Не, разгубленасьці няма. У Смаргоні людзі даволі масава падтрымліваюць Народны Фронт, гэта адчуваецца. Там людзі выбар робяць не на аснове нейкіх эмацыйных пачуцьцяў, а на аснове аналізу. Гэта характэрна для нашай заходняй правінцыі, дзе ёсьць палітычная культура і засталіся культурныя традыцыі. Няма там люмпэнскіх крыкаў, істэрыі, як у Менску.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

# Выбары – гэта як чыстка зубоў

*Калі вы хочаце, каб ад вас добра пахла, бяз выбараў не абыйсьціся*

**Пэўна адзін з самых распаўсюджаных лозунгаў, што сустракаюцца ва ўлётках кандыдатаў (самай рознай арыентацыі), гучыць прыблізна наступным чынам: "Народ Беларусі заслугоўвае лепшай долі".**

Што ж, выглядаюць гэтыя словы прывабна, спакусьліва, і нікога не пакідаюць абыякавымі. Але чаму гэты кандыдат думае, што ён здольны ашчасьлівіць Беларусь? Аднаго "выратавальніка" ужо абралі – няўжо камусьці мала? Калі б я ішоў у палітыку, то асноўным лозунгам выбраў бы такі: "Наш народ заслугоўвае роўна столькі, колькі ён заслугоўвае. І ні цэнта болей".

Народы Савецкага Саюзу пацярпелі моцны псіхалагічны ўдар ад неажыцьцяўленьня сваіх завышаных чаканьняў. За гады перабудовы сродкі масавай інфармацыі з такім імпэтам і максімалізмам кінуліся праслаўляць рынак і дэмакратыю, што простыя людзі пачалі ўспрымаць гэтыя паняцьці, як панацэю ад усіх бедаў. Грамадзянам убівалася ідыёцкая па сутнасьці і небясьпечная па наступствах думка: "Прыйдзе незалежнасьць, дэмакратыя і рынак – і жыцьцё адразу стане заможным". Нарэшце ў 1991-1992 гадох людзям аб'явілі, што незалежнасьць заваёваная, дэмакратыя перамагла, а рынак ужо стукае ў дзьверы. І што ж? Мільёны савецкіх грамадзянаў, якія заўсёды спадзяваліся на дзяржаву, раптам адчулі, што ім ніхто дапамагаць не жадае, а абяцанае шчасьце апынулася ў чужых руках. Псіхалогія "пошуку вінаватых" спрацавала імгненна, хоць і неадэкватна: "гэтыя незалежнасьць і рынак вінаватыя ў тым, што мы сталі беднымі". "Наш" чалавек ніколі не шукаў у сабе прычыны сваіх непрыемнасьцяў.

Між тым рынак і незалежнасьць у ніводнай краіне самі па сабе, аўтаматычна не гарантуюць дастатку, нават не забясьпечваюць усім нармальнага ўзроўню жыцьця. Калі вы навучыліся лічыць грошы, гэта яшчэ ня значыць, што вы станеце багатым. Але толькі калі вы ўмееце лічыць і чытаць, вы можаце чагосьці дасягнуць у жыцьці. Рынак і незалежнасьць не даюць гарантыяў для дабрабыту, яны толькі ствараюць умовы для наладжваньня нармальнага жыцьця. Нельга чакаць чагосьці "казачнага" ад дэмакратыі, тым больш ад уладаў – чакаць прыемных навінаў варта толькі ад сябе, сваіх сяброў і блізкіх.

Зразумелыя, здаецца, рэчы. Але варта паўтарыць іх яшчэ раз, бо многія, нават самыя сумленныя і адукаваныя людзі, дасюль ня вырашылі, ці ісьці ім на выбары і за каго галасаваць. "Нікому ня веру", – гавораць некаторыя з унутраным захапленьнем ад сваёй сьмеласьці і арыгінальнасьці. І гэта, відаць, максімальная сьмеласьць, на якую яны здольныя. Іншыя ж зрываюць галасы на кухнях, мацюкаючы цяперашнюю ўладу – на гэтым іхная "палітычная актыўнасьць" спыняецца. Але нельга ў дэмакратыю "верыць ці ня верыць", яе трэба ажыцьцяўляць.

Прыйсьці і прагаласаваць за нармальных людзей – гэта прыблізна тое ж самае, як кожны дзень чысьціць зубы. Бяз гэтага можна пражыць, але цалавацца з вамі ніхто не пажадае.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# Абяцанкі-цацанкі і намордык для мафіі

## Палкоўнік контрразьведкі

Рэкорд па колькасьці расклееных у Горадні перадвыбарчых ўлётак паставіў палкоўнік Кошалеў, начальнік контрразьведкі 28-га армейскага корпусу. Расклейваў улёткі, канечне, ня сам палкоўнік, а прадстаўнікі вайсковых частак Гарадзенскага гарнізону. Аднак пра аднапалчанаў у сваёй праграме палкоўнік не гаворыць ані слова. Затое дзецям ён абяцае вярнуць піянэрлагеры, нашаму прэзідэнту – аднолькавыя правы з "мусорщиком", пэнсіянэраў палкоўнік накорміць хлебам, а мафіі надзене намордык. Яшчэ зухавы контрразьведчык абяцае вярнуць колішнія цэны на асноўныя прадукты харчаваньня і "советские нормы оплаты жилья". Нарэшце, ён забараняе пераглядаць у будучыні вынікі травеньскага рэфэрэндуму і заклікае "вспомнить волю народа об единстве СССР".

## Ачышчэнцы заняліся "паэзіяй"

Трэба адзначыць, што партрэты палкоўніка Кошалева ў некаторых месцах былі абклееныя з усіх бакоў паэтычнымі опусамі на выбарчую тэматыку. Яны красамоўна далаўнялі палкоўніцкія абяцанкі. Напрыклад, "кто честно пашет – своих поддержи", "ворюгам намордник, от них беда", "тоже люди, хочется жить не хуже, чем новые господа!"

У іншых куплетах таксама паўтараліся матывы, блізкія палкоўніку Кошалеву. Напрыклад пра тое, што каб выйсьці з сёньняшняга тупіку, трэба вярнуцца назад у СССР. Цікава, што сам палкоўнік выступае як незалежны кандыдат. А графаманскія опусы падпісаныя адным, ужо напаўзабытым, словам "Очищение". Як вядома, так называлася гарадзенская група падтрымкі А.Лукашэнкі, якая марыла змагацца з карупцыяй на тэрыторыі ўсёй Беларусі. Але з гэтага, як бачым, атрымаўся пшык.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**



НА ЗДЫМКУ:

**Менск. Мікраён Уручча**

Стаяць перадвыбарчыя пікеты, раздаюцца ўлёткі кандыдатаў у дэпутаты... Беларускі народ робіць выбар

ПОШТА

# Некалькі пытаньняў «простай настаўніцы»

Грамадзянін прэзідэнт!

Спадзяюся, вас не пакрыўдзіць такая форма звароту. На жаль, іншыя формы не задаволяць або вас, або мяне. Дазвольце мне як чалавеку, які ня мае магчымасьці сустрэцца з вамі асабіста (ранг ня той: я звычайная настаўніца), задаць вам некалькі пытаньняў пісьмова. Я адпраўляю гэты ліст у вашу адміністрацыю і ў друк, бо гэта павялічвае (крыху) мой шанец быць пачутай.

Як грамадзянка Беларусі я маю права і хачу ведаць, які лёс чакае маю краіну, а разам з ёю і мяне, маіх блізкіх. Надзеі атрымаць адказ у мяне вельмі мала, дакладней яе зусім няма. Але адсутнасьць адказу – гэта таксама адказ.

Я нарадзілася і ўсё жыцьцё пражыла ў Беларусі, і даражэй за яе ў мяне нічога няма (думаю, за гэта не пакрыўдзяцца на мяне мае родныя). Я не галасавала за вас, бо ня бачыла за вамі ні сур'ёзнай праграмы, ні таленавітай каманды. Але ж я магла памыляцца. І, слова гонару, я шчыра прызналася б у гэтым уголас хоць бы пасярод плошчы Незалежнасьці. Аднак за час вашага прэзідэнцтва пытаньняў у мяне не паменшала, а, наадварот, пабольшала. І раптам зьдзейсьніцца цуд: праз цэнтральную газэту вы адкажаце на простыя пытаньні простай настаўніцы.

**Пытаньне першае.** Незабыўны Ўладзімер Ленін гаварыў, што кожная кухарка павінна ўмець кіраваць дзяржаваю. Ці ня лічыце вы, што за гады Савецкай улады гэты прынцып выкарыстоўваўся вельмі пасьлядоўна, але без аднаго зусім маленькага слова – "умець"?

**Пытаньне другое.** Што вы разумееце пад словамі "простой народ"? Можа, толькі людзей фізічнай працы? А інтэлігенцыя – гэта які народ? І да каго вы адносіце сябе? (Адна мая вучаніца ў сачыненьні напісала: "Лабановіч любіць просты народ: ён ня лічыць сябе інтэлігентам". Але ж гэта 15-гадовае дзіця!) Ці разумна ўбіваць клін паміж "простым народам" і інтэлігентамі, большасьць якіх трапіла ў "непростой народ" з тых жа рабочых і сялян? Так дзейнічалі бальшавікі. Памятаеце фільм "Чапаев", калі Васіль Іванавіч гаворыць свайму камісару: "Гнилую интеллигенцию поддерживаешь!"? Вы ж гісторык па адукацыі і ведаеце, да чаго такая палітыка прывяла.

**Пытаньне трэцяе.** Чаму ў сваіх поглядах і памкненьнях вы абапіраецеся на людзей, якія глядзяць назад і для многіх з якіх жыцьцёвы ідэал – каўбаса па 1 руб. 60 кап., а зусім ня лёс Радзімы? Няўжо вы не разумееце згубнасьці такой палітыкі, пры якой з вашай каманды пайшлі (ці іх "пайшлі") самыя таленавітыя і разумныя людзі? Ці гэта спроба ўтрымаць хоць такі электарат? З кім жа вы застаецеся? З палкоўнікамі на найважнейшых дзяржаўных пасадах? З ідэёламі цэкоўскага паходжаньня, якія ў свой час прыхавалі партыйныя білеты, а цяпер зноў павыцягвалі іх? І куды ж гэтая "каманда" вядзе Беларусь?

**Пытаньне чацьвёртае.** Чаму з упартасьцю, вартай лепшага прымяненьня, вы хочаце прывязаць нас "дружбай да сьмерці" да Расеі – краіны такой палітычнай і эканамічнай нестабільнасьці, што ў гэтых адносінах яна абагнала ледзьве ня ўвесь астатні сьвет? Сёньня Расея трымаецца на Б.Ельцыне, а заўтра?.. Я нічога ня маю супраць Расеі, у мяне шмат расейскіх сяброў, і разумныя стасункі паміж дзяржавамі ўхваліць любы нармальны чалавек, але весьці палітыку, пры якой Беларусь ад такога "сяброўства" пастаянна прайграе, – хіба гэта правільна?

**Пытаньне пятае.** Жадаючы жыць ваім розумам, а ня тымі "тлумачэньнямі", што мне падносяць у чарговым "палітдні", ці магу я, грамадзянка краіны, якая падпісала адпаведныя міжнародныя дакуманты, чытаць любыя газэты – ад СВАБОДЫ да "Советской Белоруссии"? Ці вы лічыце, што забарона недзяржаўных выданьняў і сапраўды вядзе да палітычнай стабільнасьці? Ці не наадварот?

Я добра ўсьведамляю, што замест адказаў на свае пытаньні хутчэй за ўсё атрымаю немалы клопат. Можа, заўчасна скончыцца мая настаўніцкая кар'ера, ды і ня толькі яна. Але ж у краіне, дзе асноўны крытэры права – гэта права сілы і ўлады, а не Закону, не даводзіцца дзівіцца гэтаму.

Паверце, што не жаданьне пакрыўдзіць ці абразіць вас, грамадзянін прэзідэнт, прымусіла мяне напісаць гэты ліст, а сардэчны боль за маю зямлю. Тым больш што я – адна з таго, як мінімум, мільёну маіх аднадумцаў, якія, думаю, таксама хацелі б атрымаць ад вас адказ.

**Сьвятлана ДЗЬМІТРЫЕВА, Пінск**

# Почти как в Германии...

*Выдержки из интервью президента Лукашенко немецкой газете Handelsblatt*

### В чем «единственная разница» между Германией и Беларусью?

**А.Лукашенко:** У нас народ давно созрел до тех ценностей демократических, которые имеет немецкое общество. Поверьте, мы имеем все то, что имеет немецкий народ в плане демократии. Я только вам больше скажу, что у вас в Германии власть с теми, кто становится в оппозицию власти и нарушает закон, разбирается в течении нескольких минут. Мы это видим на экранах телевизоров, спасибо, что вы часто показываете нам эти ценности: палкой, дубинкой по голове полицейский, если ты переступил закон, и разговор с тобой короткий. А мы с ними церемонимся, сутками уговариваем их, упрашиваем, чуть ли не на руках уносим с тех мест, где они нарушают законы.

Вот единственная разница между Германией и Беларусью. А я еще раз повторю, уже во второй раз нашей встречи, что и ценности у нас и подходы к демократии идентичны.

### Как захочу – так и будет

**Корр.:** *Вы сказали, что парламент должен разрабатывать законы. Сейчас парламента по существу нет, и вы управляете страной посредством своих президентских указов. Как это совмещается?*

**А.Лукашенко:** Вы знаете, нормально совмещается. Когда нет того, чего вы сказали, то кто-то должен на себя брать ответсвенность за управление государством.

Если меня кто-то обвиняет в том, что я Конституцию нарушил, я это сразу отвергаю. По Конституции этот Верховный Совет предоставил мне, как президенту, правда, это не на меня было рассчитано, это было рассчитано на того, кто руководил написанием этой Конституции. Так вот эта Конституция мне дала чрезвычайные права, Конституция, понимаете?

И что стоит только сотая статья, пункт первый, где президент принимает меры по стабильности и сохранению суверенитета нашего государства. И нигде не написано, какие меры. Т.е. отдано это мне на откуп. Какие я приму меры, такие и будут.

### Оказывается, "мы можем", но Запад и Россия не хотят

**Корр.:** *Экономическая ситуация в вашей стране по разным оценкам очень тяжелая и некоторые аналитики утверждают, что падение производства в этом году составит не менее 10%. Но у вас была подготовлена антикризисная программа. А где же первые успехи или результаты этой антикризисной программы? Или иначе сказать, сколько времени еще нужно будет, чтобы увидеть первые положительные результаты этой антикризисной программы?*

**А.Лукашенко:** Первое по поводу падения производства. Оно у нас было 11%. Сейчас мы идем по пути наращивания производства, и оно уже, падение производства, уже меньше 10%. Мы планируем, что оно будет значительно меньше 10% к концу этого года.

Падение производства связано прежде всего с утерей рынков сбыта и невозможностью наших традиционных восточных рынков, России, заплатить за нашу продукцию. Т.е. они готовы и покупают ее, берут, но пока не могут заплатить. Но в Германии нас с нашей продукцией не ждут. Вы умеете защищать своих товаропроизводителей.

Как видите, во многом не от нас зависит то падение производства, которое мы имеем в Беларуси. Мы можем произвести столько хорошей продукции качественной, сколько может купить и Германия, и Россия. Кстати, сегодня нет проблемы дефицита каких-то товаров в РБ, начиная от продуктов питания и заканчивая товарами народного потребления промышленной группы.

Есть проблема, к сожалению, высокой цены. Но вы, наверное, прекрасно понимаете, что порой цены не зависят от президента. Ну, а в Германии говорят, что от канцлера вообще никакие цены не зависят.

### Президент уже не заявляет, что он был «единственный»

**Корр.:** *Я хочу вернуться к вопросу распада Советского Союза. Если я правильно проинформирован, вы единственный из бывшего белорусского парламента, кто выступал против распада Советского Союза и против основания СНГ...*

**А.Лукашенко:** Я выступал против нецивилизованного развала страны. Тогда вопрос об СНГ не стоял. Но когда возник паралельный вопрос о СНГ, я воздержался от голосования. Поэтому это два разных вопроса. Это оппозиция сегодня наша упрекает меня в том, что я воздержался при голосовании о создании СНГ, и приписывает мне, что я якобы не был против развала Советского Союза. Это два разных вопроса.

## У Магілёве 100 тысяч «схаваных» беспрацоўных

**Згодна са статыстыкай, ахвярамі схаванага беспрацоўя за 10 месяцаў бягучага года ў Магілёве стала каля 100 тыс. жыхароў горада.**

50 тысячаў з іх не працавалі ўвогуле, знаходзячыся ў неаплатных адпачынках. Астанія замест 8 гадзінаў штодня працавалі чатыры і меней. Усё працаздольнае насельніцтва Магілёва складае прыкладна 200 тыс. чалавек.

## Міліцыя папрасіла прабачэньня

**Адразу пасьля паведамленьня ў СВАБОДЗЕ пра канфэрэнцыю Свабоднага прафсаюзу ў Магілёве і рэпрэсіі да яе арганізатараў, у абласной управе ўнутраных справаў была праведзена апэратыўная праверка ўсіх абставінаў здарэньня.**

У выніку – крымінальныя і адміністрацыйныя справы на арганізатараў канфэрэнцыі былі закрытыя. У старшыні абласной арганізацыі СПБ Сяргея Абадоўскага міліцыянты папрасілі прабачэньня, а начальніку Кастрычніцкага раённага аддзяленьня падпалкоўніку Марозаву (чые падначаленыя спрабавалі спыніць канфэрэнцыю) указана на неабходнасьць больш чулых адносінаў да зваротаў грамадзянаў, калі яны праз міліцыю абараняюць свае правы.

## Нязломны дырэктар

**Магілёўская абласная пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу ў адносінах да дырэктара прадпрыемства жалезабэтонных вырабаў Вячаслава Волахава.**

Яго абвінавачваюць у невыкананьні працоўнага заканадаўства. В.Волахаў два разы незаконна звальняў з працы свайго намесьніка. Пракуратура кваліфікуе дзеяньні дырэктара як наўмыснае парушэньне працоўнага кодэксу. За гэта Волахаў можа атрымаць год папраўчых работаў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## З калодзежа піць небясьпечна

**Як паведаміў загадчык аддзяленьня Рэспубліканскага цэнтру эпідэміялогіі і гігіены Сямён Позін, 52% калодзежаў у Беларусі перанасычаныя нітратамі.**

Асабліва катастрафічнае становішча ў Берасьцейскай вобласьці, дзе забруджаных калодзежаў каля 75%. Таксама вельмі брудная вада ў Менскай, Гомельскай і Гарадзенскай абласьцях. Сяляне вымушаныя піць нітраты, бо калгасы, якім рэкамэндавана пабудаваць вадаправоды, ня маюць на гэта грошай. Як лічыць сп.Позін, "капаць новыя калодзежы ня мае сэнсу, трэба рабіць сьвідравіны".

На Берасьцейшчыне больш за 181 тысячу калодзежаў, з іх каля 60 тыс. – нядобраўпарадкаваныя. Раней студні агульнага карыстаньня знаходзіліся на балансе сельскіх саветаў, а цяпер яны практычна нічыйныя. Часам жыхарам вёскі нават у складчыну цяжка купіць вядро і ланцуг, таму даводзіцца чэрпаць ваду сваім посудам, што прыводзіць да мікрабіялагічнага забруджваньня.

Інфармацыя пра стан калодзежаў рэгулярна трапляе ў Кабінэт міністраў. Як лічыць санітарная служба, праблема патрабуе тэрміновага вырашэньня.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Самы забойны матар'ял

**Усе раённыя газэты Гарадзенскай вобласьці атрымалі з абласнога цэнтру строгае ўказаньне надрукаваць без усялякіх скарачэньняў даклад прэзідэнта Лукашэнкі на нядаўняй нарадзе "вэртыкальшчыкаў".**

Але ў адным нумары раённай газэты ўвесь даклад "бацькі" не памесьціцца, таму патрэбны ўкладыш. Аб выкананьні дырэктывы рэдактары газэтаў павінны дакласьці да 1 сьнежня 1995 г.

**С.КАСТРАВІЦКІ**

## Працуюць задарма

**Апроч былых калгасаў-мільянэраў, сяляне ў іншых гаспадарках цяпер бывае па паўгода не атрымліваюць заробкаў.**

Часам не лягчэй і гараджанам. Напрыклад, рабочыя Гарадзенскага заводу зборнага жалезабэтону не атрымалі заробкаў яшчэ за ліпень, а на мэталаапрацоўчым заводзе і аб'яднаньні надомнай працы – за жнівень.

## У цэхах сабачы холад

**Вось ужо другую зіму на шмат якіх гарадзенскіх прадпрыемствах у цэхах пануе сабачы холад.**

Тэмпэратура часам падае амаль да нуля градусаў. Ацяпленьне не падключаюць, бо за яго няма чым плаціць. Прадпрыемствы горада завінаваціліся 23 млрд. рублёў за газ, 19 млрд. – за электрычнасьць, 7,5 млрд. – за ваду і 3 млрд. рублёў – за цяпло.

**С.М.**

## На якуцкіх дыямантах добра зарабляюць

**11 рабочых гарадзенскага арэнднага прадпрыемства "Белэлектрамантаж" атрымалі працу ў Якуціі на фабрыцы, дзе здабываюць дыяманты.**

Працаваць яны будуць 3 месяцы. А частка нашых рабочых з гэтага прадпрыемства мае заробкі ў Цюмені. Вядуцца таксама перамовы з Краснаярскім алюмініевым заводам.

"Белэлектрамантаж" атрымаў добрую практыку на будоўлі вайсковага гарадка ў Росі Ваўкавыскага раёну, якая ажыцьцяўлялася супольна з нямецкай і фінскай фірмамі. Потым гарадзенскія рабочыя ўдзельнічалі ў будаўніцтве такога ж гарадка ў Расеі пад Масквой. Дзякуючы гэтаму, яны цяпер выгодна могуць прадаваць сваю працоўную сілу.

**А.І.**

ГІСТОРЫЯ

# Загадка мэханічнай галавы

*Роўна 175 гадоў таму была зачыненая Полацкая акадэмія*

**Прызнайся, чытач, табе таксама, яшчэ на школьнай парце, надзейна загналі ў мазгі ўпэўненасьць у тым, што да "Вялікага Кастрычніка" ў Беларусі не існавала ніводнай вышэйшай навучальнай установы.**

Адказ на пытаньне "чаму?" ляжаў нібыта на паверхні; якія там, маўляў, унівэрсітэты, калі "дарэвалюцыйны" беларус – пан "сахі і касы", істота цёмная, непісьменная ды яшчэ і з каўтуном на галаве. І школьныя падручнікі, і ідэалагічныя байцы партыі маўчалі пра тое, што вышэйшых навучальных установаў на пачатку XX стагодзьдзя Беларусь ня мела з вельмі простай прычыны: баючыся ўздыму нацыянальна-вызвольнага руху, царскія ўлады ўзялі іх ды пазачынялі. У 1832-м зачынілі Віленскі ўнівэрсітэт, у 1864-м – Горы-Горацкі земляробчы інстытут... Першаю у гэтым сьпісе стаіць Полацкая акадэмія, замок на дзьвярах якой зьявіўся роўна 175 гадоў таму.

Пачыналася ж усё з шыкоўнага банкету, які пад урачыстыя залпы гарматаў і выбухі пэтардаў сьвяточнага фэерверку меў месца ў Полацку 10 чэрвеня 1812 года. Падставаю быў указ Аляксандра І: "Во уважение представленного Нам желания Белорусского дворянства и пользы для наук, признали мы за полезное возвести Полоцкую иезуитскую коллегию на степень Академии с присвоением ей преимуществ, дарованных университетом".

Студэнтаў прынялі тры факультэты: тэалагічны, моваў і літаратур; філасофіі і вольных навук. На філалагічным, для прыкладу, выкладаліся лацінская, грэцкая, старажытнагабрэйская, польская, расейская, францускага, нямецкая, італійская ды арабская мовы і створаныя на іх літаратуры. З навучальных праграмаў вынікае, што ўзровень адукацыі студэнтаў дазваляў практыкавацца ў перакладах з нямецкай на старажытнагрэцкую альбо з францускай на лаціну.

40 000 тамоў налічвала акадэмічная бібліятэка. Папаўняліся экспазіцыі карціннай галерэі і пабудаванага па тыпу кунсткамэры ўнівэрсітэцкага музэя, галоўным дзівам якога быў унікальны і загадкавы дагэтуль твор полацкіх мэханікаў, пра які можна прачытаць у III томе "Живописной России": "Чудовищною редкостью, приводившею в восторг и трепетное любопытство, служила колоссальная говорящая человеческая голова – подвижная, с глазами, принимавшими разные выражения, и, главное, изъясняющаяся на всех употребительных языках. На какие угодно и на каком угодно языке заданные вопросы голова немедленно отвечала внятно, громко, логично, с полным знанием обстоятельтв и обстановки спрашивавшего, так что тот приходил просто в ужас".

У Полацкай акадэміі пад кіраўніцтвам сарака прафэсараў займалася каля шасьцісот студэнтаў. З яе аўдыторый пачалі свой шлях гісторык, археолаг і этнограф Канстанцін Тышкевіч, філосаф Анёл Доўгірд, палітык і прамоўца Тадэвуш Корсак. Тут вучыўся жывапісец Валянцін Ваньковіч, аўтар знакамітых партрэтаў Міцкевіча, Пушкіна, Напалеона. Дыплом акадэміі атрымаў аўтар славутай кнігі "Шляхціц Завальня, альбо Беларусь у фантастычных апавяданьнях" Ян Баршчэўскі. Пералік імёнаў, што ўвайшлі ў энцыклапэдыі, мог быць шматкроць даўжэйшым, каб Полацак не заставаўся ўнівэрсітэцкім горадам усяго восем гадоў.

Дэмакратычная навучальныя ўстановы зрабіліся на захопленых царскай Расеяй землях магутнай духоўнай апазіцыяй. Полацкую прафэсуру пачалі ўсё часьцей абвінавачваць у выхаваньні антыўрадавых настрояў. У акадэмію зачасьцілі камісіі з праверкамі. Адна з іх выкрыла жудасную крамолу: аказваецца, выкладчыкі і студэнты, ня тоячыся, сьпявалі рэвалюцыйныя песьні. Пікантнасьць сітуацыі была ў тым, што полацкія якабінцы выкарысталі арыгінальную форму кансьпірацыі, замаскіраваўшы свае гімны матывамі вядомых расейскіх песьняў. "Под общеизвестный напев вроде "Сени мои, сени" или "Вниз по матушке Волге" пелась самая бунтовщицкая песня, вышедшая из шайки Костюшко, – дакладвалі ў Санк-Пецярбург царскія кантралёры. – А русское правительственное туземное чиновничество, слушая подобное, восхищалось родными мотивами и русскими звуками, не подозревая в этом ничего революционного".

Доўга такое "безобразие" працягвацца, вядома, не магло. У 1820 годзе з царскай канцылярыі выйшаў указ: "Полоцкую академию и подведомственные ей училища упразднить".

Музэйныя зборы і лепшыя творы карціннай галерэі паехалі ў Пецярбурскую акадэмію мастацтваў. Беларусь разьвіталася з бясцэнным акадэмічным кнігазборам. Публічная бібліятэка ў сталіцы імпэрыі прысабечыла "все редкие и роскошные издания, коих она не имеет и, следовательно, могущие служить ее украшением". Пецярбурскі ўнівэрсітэт урваў 6260 тамоў, Галоўнае імпэрскае ўпраўленьне духоўных справаў "иностранных вероисповеданий" – 3056... На ўсход каланізатары павезьлі і архіў акадэміі з унікальнымі манускрыптамі. (У першую сусьветную вайну частка архіву "ўсплыла" ў Сімбірску, дзе інтэнданты прадавалі манускрыпты гандлярам на пуды як абгортачную паперу.)

Царская камісія знайшла і загадала зьнішчыць патайное памяшканьне з сітэмаю правадоў, адкуль мэханікі Полацкае акадэміі кіравалі сваімі работамі. Гаваркую мэханічную галаву, якая давала мудрыя парады "на всех употребительных языках" адправілі на сьметнік. Калі верыць Яну Баршчэўскаму, яна вандравала з дому ў дом, палохаючы гаспадароў, што імкнуліся як найхутчэй збыць яе суседзям. Паводле яшчэ непацьверджаных з незалежных крыніцаў зьвестак, цяпер паслугамі галавы таемна карыстаецца адзін з мясцовых кандыдатаў у дэпутаты ад ПКБ. Вось толькі славутай рэліквіі сумна, бо з усіх "употребительных" моваў кліент сяк-так ведае толькі адну. Вінаватая, безумоўна, цяжкая спадчына царызму.

**Уладзімер АРЛОЎ**

СПОРТ

# Надыходзіць зіма

## *Вялікія грошы могуць прымірыць нават Карпава з Каспаравым*

**ШАХМАТЫ**

● Барыс Гельфанд з Менску перамог на фінішы супэртурніру ў Бялградзе Аляксея Шырава (Гішпанія) і Жаэля Лёцье (Францыя). Цяпер ён разам з Уладзімерам Крамнікам з Расеі дзеліць першае-другое месца. Шыраў адстаў ад іх на палову ачка.

● 33-гадовы Кірсан Ілюмжынаў, прэзідэнт Калмыкіі, стаў прэзідэнтам міжнароднай шахматнай фэдэрацыі.

Ён атрымаў 95 галасоў ад 102 дэлегатаў кангрэсу FIDE. Кандыдатуру Ілюмжынава прапанаваў былы прэзідэнт, а цяпер першы віцэ-прэзідэнт FIDE – 68-гадовы філіпінец Фларэнсіё Кампаманэс, які пераканаў удзельнікаў кангрэсу, што менавіта Ілюмжынаў, які зьяўляецца сябрам і Каспарава, і Карпава зможа прымірыць абодвух вялікіх шахматыстаў. Нам здаецца, што мірны працэс пойдзе пасьпяхова, калі новы прэзідэнт знойдзе вялікія грошы, да якіх неабыякава ставяцца гэтыя шахматысты.

● Доўгачаканы матч паміж Анатолем Карпавым (Расея) і Гатам Камскім (ЗША) адбудзецца ў чэрвені 1996 году ў канадзкім Манрэалі.

● Наўрад ці нехта перашкодзіць магілёўскаму гросмайстару Аляксею Фёдараву ў другі раз стаць чэмпіёнам Беларусі.

Ён мае 7 ачкоў з 7 магчымых, на паўтары менш у Аляксея Аляксандрава, на два – у Валерыя Сьмірнова.

**ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА**

● У Гуанчжоў (Кітай) завяршыўся чэмпіянат сьвету.

Бронзавымі мэдалістамі сталі нашыя атлеты: чэмпіён Эўропы Алег Чырыца (да 99 кг) і Генадзь Шчэкала (да 108 кг). Абодва менчукі праявілі сябе ў штуршку. А ў двубор'і лепшымі сярод нашых былі Віктар Бяляцкі з Наваполацку (91 кг), Аляксей Крушэвіч з Віцебска (звыш 108 кг), якія занялі пятыя месцы, а таксама яшчэ адзін наваполачанін Уладзімер Емельянаў (99 кг) – шостае месца. Самым моцным чалавекам планэты стаў расеец Андрэй Чэмеркін – 442,5 кг (197,5 + 245).

**СПАРТОВАЯ ГІМНАСТЫКА**

● Віталь Рудніцкі з Менску, выступаючы на перадалімпійскіх спаборніцтвах у Атланце, заняў другое месца ў вольных практыкаваньнях і на кані.

**БІЯТЛОН**

● На першых у гэтым сэзоне гонках біятланістаў у Мурманску вызначыліся беларусы Сьвятлана Парамыгіна і Вадзім Самурын.

**ЛЫЖНЫ СПОРТ**

● На стартавых гонках Кубку сьвету ў Вуакаці (Фінляндыя) перамаглі Любоў Ягорава і Уладзімер Сьмірноў.

Ягорава, якая вярнулася ў спорт пасьля перапынку, зьвязанага з нараджэньнем дзіцяці, выйграла гонку на 5 км. Другое і трэцяе месцы занялі адпаведна Алена Вяльбе (Расея) і Марыт Мікельсплас (Нарвэгія).

Сьмірноў, які з казахстанскім пашпартам жыве ў Швэцыі, перамог на дыстанцыі 10 км свайго галоўнага суперніка Б'ёрна Дэлі з Нарвэгіі.

**ГОРНАЛЫЖНЫ СПОРТ**

● У горных лыжах фаварыты пакуль знаходзяцца ў цені.

У агульным заліку Кубку сьвету лідуюць швайцарац Міхаэль фон Груніген і нарвэжац Ласэ К'юс.

**ФІГУРНАЕ КАТАНЬНЕ**

● Гран-пры Нямеччыны заваявалі Анжэліка Крылова і Алег Аўсяньнікаў (спартовыя танцы на лёдзе). У парным катаньні перамаглі таксама расейцы Марына Яльцова і Андрэй Бушкоў, а сярод дзяўчат – амэрыканка Мішэль Кван.

● Двухразовага алімпійскага чэмпіёна Сяргея Грынькова, які памёр ад сардэчнага прыступу падчас трэніроўкі ў Лэйк-Плэсідзе (ЗША), пахавалі ў мінулую суботу на Ваганькаўскіх могілках у Маскве побач з магілай другой вялікай і таксама заўчасна памерлай фігурысткі Людмілы Пахомавай.

**ХАКЕЙ**

● Яшчэ адна сумная навіна.

У Санкт-Пецярбургу памёр 38-гадовы чэмпіён сьвету і Алімпійскіх гульняў Мікалай Дразьдзецкі. Лепшы бамбардыр хакейнага турніру Алімпіяды-84 хварэў на сахарны дыябэт. Фізічныя нагрузкі яму былі забароненыя, а ён працягваў рыхтавацца да матчу вэтэранаў...

**ТЭНІС**

● Грант Конэл (Канада) і Патрык Гэлбрэйм (ЗША) сталі ў галандзкім Эйндховэне чэмпіёнамі сьвету ў парным разрадзе.

У паўфінале яны выбілі з турніру лідараў сусьветнага рэйтынгу Вудфарда і Вудбрыджа з Аўстраліі, а ў фінале перамаглі гаспадароў – Элтынга і Хаархуса. Пераможцы атрымалі прыз у 250 тыс. даляраў.

● Мацнейшай камандай сьвету стала жаночая зборная Гішпаніі. У Валенсіі Канчыта Марцінэс і Аранта Санчас-Вікарыё перамаглі ў фінале Кубку Фэдэрацыі амэрыканак – 3:2.

**АКРАБАТЫКА**

● Спаборніцтвы лепшых юных акрабатаў рэспублікі пад назваю "Трайное сальта" прайшлі ў Менску.

Хутка ў Менску адбудзецца міжнародны турнір, дзе прымуць удзел спартсмэны з Англіі, Польшчы, Расеі і Украіны.

**ФУТБОЛ**

● Чэмпіён СССР-82, віцэ-чэмпіён Эўропы-88 Сяргей Гоцманаў зьехаў да жонкі ў ЗША, дзе яна працуе па трохгадовым кантракце ў гімнастычнай школе.

**Падрыхтаваў Сямён ПЛОЦ**

## Палякі выдаюць нумары

**На польска-беларускай мяжы ў Кузьніцы кожнаму шафёру сталі выдаваць нумар.**

Прапускаюць цераз мяжу толькі паводле нумару. Палякі пры гэтым занатоўваюць рэгістрацыйны нумар кожнага аўтамабіля. Таму перакупіць чаргу за 5 даляраў і перасячы мяжу па-за чаргой, як гэта было раней, бадай немагчыма.

Палякі таксама наладзілі нарэшце паліцэйскі кантроль за аўтадарогамі, па якіх сьледуюць турысты і транзітныя грузы. У прыватнасьці гэта датычыць шашы Кузьніца–Беласток–Варшава, якая была дагэтуль досыць небясьпечная з прычыны рэкету.

А вось нашыя ў тым жа месцы на мяжы (Брузгі–Кузьніца) нумары пакуль не выдаюць і чаргу яшчэ можна купіць.

**С.М.**

## "Буржуйкі" ў казармах

**У 6-ай мэханізаванай брыгадзе, якая дыслакуецца ў Горадні, грунтоўна падрыхтаваліся да зімы.**

У казармах ды іншых службовых памяшканьнях кладуць з цэглы печкі, выводзячы дымаходы ў форткі. Таксама паставілі жалезныя "буржуйкі". Салдаты ж цяпер нарыхтоўваюць дровы.

**А.Б.**

## І Бога на іх няма

У вёсцы Асавец Бялыніцкага раёну невядомыя раскапалі магілу, пахаванай 9 гадоў таму адзінокай пэнсіянэркі. Вандалы забралі з магілы залатыя каронкі і завушніцы.

**М.БОЛІНСКІ**

## Страляў у сабаку – пацэліў у сябра

**Трагічны выпадак здарыўся ў вёсцы Капці Дзятлаўскага раёну.**

Чацьвёра мужчын, вярнуўшыся з паляваньня, сагрэліся гарэлкаю. Затым адзін з іх, рабочы Лявонавіцкага лясьніцтва Сяргей Вількевіч, узяў наразную вінтоўку і стрэліў у сабаку. Але непацэліў і патрапіў у сьцягно свайму сябру сп.Каршуку, які памёр ад страты крыві.

**С.ВАЛОШКА**

## Коні карыстаюцца попытам

У Магілёўскай вобласьці сталі частымі крадзяжы коней. У лістападзе зафіксавана больш за 20 выпадкаў. А ўсяго за гэты год скрадзена каля 150 коней.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



TABULA RASA

# Сакрат Яновіч: «Будзе дзяржава – будзе і ўсё астатняе»

## *Інтэрвію з вядомым беларускім пісьменьнікам Сакратам Яновічам, які жыве ў Польшчы*

**– У сваіх творах вы вельмі патрабавальна ставіцеся да чалавека, заклікаеце яго да маральнасьці, духоўнага разьвіцьця. Тым часам людзей цяпер хвалююць больш празаічныя праблемы...**

– Чалавек ніколі ня выберацца з галечы, не падымецца са дна ўверх, пакуль ня стане чалавекам.

Гаворачы пра свайго роду канфлікт паміж маральнасьцю і цывілізацыяй, становіцца відавочна, што аднаго без другога не бывае, канфлікт ёсьць, але гэта канфлікт разьвіцьця. Так як няма ў сьвеце бедных і адначасова культурных народаў, так і наадварот – цёмных і багатых. Не бывае цывілізаванага разьвіцьця без маральнага. Мы гаворым пра нізкія наклады кніжак у сьвеце, але чамусьці ня памятаем пра тое, што ў багатых народаў у кожным горадзе ёсьць свой унівэрсітэт і выходзіць пяць або дзесяць часопісаў. А ў кожнай, нават плебейскай, хаце ў Англіі ёсьць бібліятэка, чаго, дарэчы, няма ў нас.

Напрыклад, у Ісьландыі, краіне па насельніцтву роўнай Горадні, выдаецца 150 газэтаў і часопісаў, акрамя гэтага краіна мае перакладзеную на сваю мову ўсю сусьветную літаратуру і ў кожным доме колькасьць кніжак ня меншая за 5 тыс., нават у прастакоў. Для параўнаньня, у Горадні няма аніводнае штодзённае газэты. Альбо ўзяць, да прыкладу, Беласток, дзе выдаецца ажно тры штодзённыя газэты, якія самафінансуюцца, да таго яшчэ шэсьць ці сем часопісаў. Гэта ў тым самым Беластоку, які паўвеку таму быў мястэчкам Гарадзенскай губэрні. Гэта вельмі яскравы прыклад таго, што значыць свабода працы і ініцыятыва. На Захадзе ў сярэднім каля сямідзесяці працэнтаў насельніцтва мае вышэйшую адукацыю.

Зьвярніце ўвагу, што чалавек працы заўсёды будзе маральны. Чалавек, які працуе, будуе, намагаецца, ня возьмецца руйнаваць вынікі сваёй працы. А гэта ўжо пачатак маральнасьці. Маральнасьць палягае не ў дэкларацыях, а ва ўчынках. Людзі, якія стварылі высокую цывілізацыю – амэрыканцы ці японцы – ня могуць ня быць маральнымі. Калі, напрыклад, у Чыкага існуе восем унівэрсітэтаў і некалькі тыпаў выданьняў, то тыражы кніжак у іх ня будуць і не павінны быць высокімі, бо да культуры людзі павінны імкнуцца самі і нельга іх падштурхоўваць. Трэба ствараць умовы, каб яны гэтую культуру займелі, а ня радавацца бясплатным білетам ў тэатар, бо яны туды ня пойдуць. Гэта вынік самой натуральнай культуры, якая існуе і разьвіваецца толькі тады, калі чалавек мае вольны час. Бяз вольнага часу няма культурнага чалавека. Ад недахопу культуры яшчэ ніхто не памёр, а ад недахопу хлеба вымерлі цэлыя народы. Гэта таму на першым месцы хлеб, а пасьля школа. Але бяз добрай школы ня будзе больш хлеба, ня будзе разьвіцьця. Калі ў дзяржаве настаўнік зарабляе менш за функцыянэра, то ў такой дзяржавы няма будучыні.

**– Гэта, напэўна, датычыць Беларусі?**

– У Беларусі ёсьць будучыня, бо тут ёсьць людзі, народ. Беларусь чакае доўгі пэрыяд хаосу, бо яна апынулася на зломе эпох. Мяркую, што яна пачне ўставаць з каленяў праз дваццаць-сорак гадоў, каб выйсьці на кантакт з сучасным сьветам.

Непасрэдная прычына ўпадку камунізму ў СССР ня ў тым, што ён быў антычалавечай сістэмай (бо з гэтым ён мог яшчэ доўга пратрымацца), а ў тым, што гэты монстар страціў кантакт з сусьветнай эканомікай, апынуўся збоку эканамічнага прагрэсу. Уявіце сабе, што ў час, калі Гарбачоў пачаў сваю перабудову, удзел усяго сацыялістычнага лагеру ў сусьветнай эканоміцы складаў толькі два працэнты.

**– Дарэчы, як палякі глядзяць на тое, што адбываецца зараз у нашай краіне?**

– Палякі вельмі напалоханыя тым, што адбываецца ў Рэспубліцы Беларусь. Яны добра разумеюць: калі бот расейскага салдату ступіць у Горадню і Берасьце, то ім ад гэтага лепш ня будзе. І таму яны, добра ведаючы гісторыю, разумеюць, што колькі разоў падала Беларусь, столькі разоў падала і Польшча. Бо сама яна, адна, у сутыкненьні з Расейскай імпэрыяй ня вытрывае. А для Захаду Польшча забедная, а там бедных ня любяць, хоць і спрабуюць дапамагчы. Палякі думаюць катэгорыямі палітыкі: яны ведаюць, што Украіна ўтрымаецца, Латвія і Літва ўтрымаюцца. І адначасова яны ведаюць, што беларусы настолькі нясьпелыя, што не шануюць і ня цэняць свайго, а таму іх можа хтосьці захапіць пад свой жывот.

**– Як вы думаеце, чаму ў сьвеце нас практычна ня ведаюць і нават не цікавяцца намі?**

– Нас ня ведаюць, бо ў нас няма дзяржавы. Ведаюць найперш тыя народы, якія існуюць на палітычнай мапе сьвету. Вось вам прыклад. Вядомы польскі пісьменьнік Сянкевіч атрымаў у 1910 годзе Нобэлеўскую прэмію, але ўвесь сьвет ведаў, што гэта пісьменьнік расейскі, таму што ў той час ня было Польшчы на мапе сьвету, і яму далі прэмію, як пісьменьніку расейскаму. На гэтую тэму напісаная цэлая кніжка – пра Сянкевіча як расейскага пісьменіка. А Сянкевіч, той па-расейску за сваё жыцьцё ніводнага слова не напісаў. Дарэчы, у той час ва ўсіх гімназіях Расейскай імпэрыі павесілі ягоныя партрэты і адбыліся асобныя лекцыі, прысьвечаныя творчасьці Сянкевіча, у якіх гаварылася, што гэта "наш выдающийся писатель, который пишет на польском наречии". І вось уявіце сабе, калі б у 1910 годзе існавала Польшча, як дзяржава, то, вядома, гэта не магло б быць.

Так што – дзяржава. Галоўнае – дзяржава. Будзе дзяржава, будзе і нацыя, і ўсё астатняе, бо ня нацыі ствараюць дзяржавы. Перш узьнікае дзяржава, якая потым фармуе народ.

**Гутарыў М.КАРНЕВІЧ**



Падпісны індэкс 63887 Нумар падпісаны ў друк 27.11.95 (12.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная зорка" (г.Менск, 1-шы Загарадны завулак,3) © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая Наклад 42000 (1-шы завод - 25520)
ЛВ N10 Заказ 3072